Opłate pocztową uiszczono ryczałtem

У гэтым нумары 6 страніц.

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3.

Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл.50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр. Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі.

Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту.

№. 30 Вільня, Субота, 30-га кастрычніка 1926 г. Год I.

## Апошняе слова.

Падарожа маршалка Пілсудскага ў Нясьвіж, дзе ён—разам з міністрамі-манархістамі—гасьціў у замку князёў Радзівіллаў, выклікала вялізарнае парушэньне ў польскай прэсе ўсіх кірункаў. Манархісты трыумфавалі, бачучы ў гэтай падарожы доказ прымірэньня былага сацыялістычнага баявіка — з найбуйнейшымі абшарнікамі краю, з якімі некалі п. Пілсудскі вёў непрымірымую барацьбу. „Słowo" з захапленьнем перакавала словы вітаўшых маршалка Пілсудскага магнатаў, якія называлі госьця „сваім" па крыві і па духу,—і адзначала, што п. Пілсудскі быў гэтым „вельмі ўзварушаны". Мала таго: орган манархістаў зьмясьціў партрэт п. Пілсудскага — побач з партрэтам апошняга польскага караля Станіслава Аўгуста Панятоўскага — *пад каралеўскай каронай*, як быццам хочучы паказаць, што польскія манархісты гатовы ўзлажыць карону на галаву п. Пілсудскага — ў награду за захаваньне ім „сацыяльнае раўнавагі" ў Польшчы.... Апошняе якраз і ўзбурыла опозыцыйную прэсу—праўую і левую, ды выклікала рад вострых выступленьняў проці „сноў аб кароне", якія адкрыта прыпісваюцца п. Пілсудскаму.....

Мы—бязумоўныя працаўнікі каралеўскае ўлады, незалежна ад таго, хто і якім шляхам маніцца яе сабе здабыць. Але ў даным выпадку нас—паміма гэтага пытаньня—цікавіць нешта другое, чым тое, на што зьвярнула ўвагу ўся польская прэса. Нас цікавіць факт, што марш. Пілсудскі сваім прыездам у госьці да абшарніка, які на сваіх землях завёў заправдны прыгон для беларускіх сялян, сказаў сваё *апошняе слова* аб тым, як трэба разумець ягоную заяву аб захаваньні ў Польшчы *„сацыяльнае раўнавагі"*.

Князь Сапега ў сваей прамове да марш. Пілсудскага выразна сказаў, што абшарнікі з страхам узіраюцца на тое, як „новыя сацыяльныя слаі (сяляне і работнікі!) на руінах шляхоцкае Польшчы ўзялі ў свае рукі заканадаўчую ўладу". Ад гэтых новых народных сілаў—паводле думкі магнатаў—Польшча мусіць згінуць. І вось марш. Пілсудскі зьяўляецца тым адзіным аўтарытэтам, які можа да гэтага не дапусціць і вярнуць польскім магнатам іх колішняе значэньне ў краі, павярнуць ход гісторыі Польшчы—назад, за сто пяцьдзесят гадоў....

І—ў адказ на ласьлівыя словы былых сваіх заклятых ворагаў—былы павадыр польскага сацыялізму падняў тост, закончыўшы яго славамі:

„Падыймаю гэты тост за род Радзівіллаў, які мяне сяньня ўгашчае, *каб астаўся таксама вечным, як гэтыя старыя муры Нясьвіжа!*".....

А дзеялася гэта на Зямлі Беларускай,—на Зямлі, ад вякоў паліванай крывёй беларускага сялянства,—на Зямлі, дзе па адрасу валадароў „Радзівіллаўскага княжства" з вуснаў тысячаў гаротнікаў раздаюцца крыкі жалю, скаргі, праклёны.....

„Хай род Радзівіллаў вечным будзе!"

Апошняе слова марш. Пілсудскага—слова былага сацыяліста—сталася першым словам *адрадзіўшагася клясова абшарніка*, прыпомніўшага раптам аб тым, што ён перадусім — „патомак старога і заслужонага шляхоцкага роду"......

## Каму можна, каму—не!

Аб тым, што буржуазныя кругі, паны-абшарнікі і шляхта на землях Заходняе Беларусі даўно ўжо добра с'рганізаваны,—ні адна дэмакратычная польская газэта не падымае з-за гэта крыху і лічыць гэта зусім нармальным зьявішчам. Што нашыя паны і дробная шляхта, і асаднікі ўзброены з ног да галавы (і рэвальверы, і стрэльбы ў кожнага для паляваньня, і навет вайсковыя карабіны), нідзе аб гэтым не падымаецца галасу. А колькі-ж крыку і гармідару ды і пастрахаў робіць на вёсках нашых паліцыя, калі ўлетку падросткі-пастушкі зробяць сабе цацку-пісталет!

Пэўна, кожнаму селяніну ведама, што пан-абшарнік ніколі не растаецца з рэвальверам; навет пані і паненкі па дварох носяць пры сабе заўсёды браўнінгі. Часта даходзіць да сьмешнага: прыходзіць селянін у двор, каб купіць сабе хвойку на падрубы; выходзіць пані ці паненка і на паску ў яе пры сукенцы вісіць рэвальвер. А цяпер, як падняўся агідны паход віленскае польскае прэсы проці Беларускае Грамады, дык у вялейцы-павятовай проці адзінае там крамы аружжа быў цэлы „хвост" шляхты, якая сьпяшылася набыць сабе яшчэ больш аружжа. Гэтае пасьпешнае ўзбройваньне шляхты можна бачыць і ў іншых нашых паветах.

У зьвязку з перакройкай некаторых паветаў зьяжджаюцца паны на Павятовыя свае зьезды, выбіраюць прэзыдыумы сваіх павятовых арганізацый (як гэта нядаўна было ў Браслаўскім павеце) і — рэч зусім нармальная—ніхто проці гэтага не абураецца. Паном усё можна, ніхто ім не забараняе, ніхто не перашкаджае. Паны абшарнікі і шляхта кожнага павету маюць свае павятовыя арганізацыі, звязаныя ў арганізацыю ваяводзкую. Усе разам яны аб'яднаны ў Саюз абшарнікаў („Związek Ziemian"). Адбываюцца зьезды, нарады, чытаюцца рэфэраты аб „Грамадзе", выносяцца рэзалюцыі, як змагацца з арганізацыяй працоўных—з Бел. Сял.-Раб. Грамадой, з яе ўплывамі на вёсцы, абгаварваюцца на тайных паседжаньнях справы, якія меры тасаваць да павадыроў Грамады, як падпускаць сваіх давяроных ці купленых людзей у Грамаду, як правакаваць яе і г. д.

Перапалохаліся паны арганізаваньня працоўных масаў на нашых землях: напалі „страхі на ляхі". Дзе-б ні адбывалася сабраньне паноў, толькі й гутаркі цяпер у іх пра Грамаду. Усе ў адзін голас крычаць, каб зачыніць Грамаду, ня даць ей далей пашырацца; і ў гасьцёх, і дома і ў вагоне „Грамада" ня сходзіць з іхных вуснаў. У дварох павялічаюць начную варту, умацоўваюць дзьверы сваіх палацаў, робяць новыя ваканьніцы, павялічваюць шпягоўства за пакаёвай службай і парабкамі і г. д.

Да павялічэньня гэтых страхаў найбольш прычынілася віленская польская прэса, якая падняла крык па ўсей польскай лініі, — эндэцкі „Dziennik Wileński", манархічнае „Słowo" і нібы дэмакратычны „Kurjer Wileński". Ужо блізу месяц, як са шпальтаў гэных газэт ня сходзіць зьвяга на Грамаду. У сваёй брахні адна газэта намагаецца перакрычаць другую. Найбольш зьвягі і злоснай брахні на Грамаду чуваць са шпальтаў „Dz. Wileńskiego"; дзьве другія стараюцца не адставаць. „Зачыніць, здушыць!" Дробны які выпадак на правінцыі, такі выпадак, на які раней яны ўдзялялі пару радкоў, цяпер разьдзьмухваецімі ў пляновы паход Грамады проці двароў, вывядоўцаў і г. д.—і ўсё гэта прыпісваецца Грамадзе. Кожная з гэных газэт добра разумее цану сваей зьвягі, дык наўмысьля перакручвае факты, прыдаець ім іншае асьвятленьне, бо... трэба-ж брахаць на Грамаду, трэба-ж як-небудзь давясьці да таго, каб спыніць арганізацыйную, усьведамляючую і культурную працу Грамады. Трэба ж якім-небудзь спосабам пераканаць і ўладу, каб яна парушыла Канстытуцыю ў адносінах да легальнае нашае арганізацыі і напужаць Эўропу, што пагражае небясьпека агульнаму міру, калі разрасьцецца Грамада; трэба раз'афішаваць усюды Грамаду, як нібы камуністычную арганізацыю, як вялікую пагрозу для „цывілізаваных народаў", каб пасьля было нейкае апраўданьне прычын зачыненьня Грамады ці абвяшчэньня ваеннага стану на нашых землях, каб гэтым раз назаўсёды забарніць Гуртком Грамады ладзіць свае паседжаньні.

Адным словам, паезуіцку: усе сродкі — добрыя, абы толькі дапяць сваей мэты; усё добра, каб толькі спыніць працу Грамады. Бяльмом у воку стала ім Грамада.

А вось водгукі на гэны прэсавы паход. Адусюль даходзяць чуткі аб перашкодах у справе сходаў Гуртоў, аб карах адміністрацыйных; урэшце бачым, што паны Старасты ўжо ня далі дазволаў на зьезды Грамады ў паветах Слонімскім, Маладэчанскім, Ваўкавыскім і Навагрудзкім. Адмаўляюць у дазволах на зьезды, каб гэтым перашкодзіць праводжаньню сыстэматычнае працы ў арганізацыях Грамады.

Чым-жа мы адказаць павінны на гэты арганізаваны паход проці Грамады? Адказаць мы павінны павялічанай усьведамляючай працай Грамады на мясцох, значным пашырэньнем нашае газэты па вёсках і мястэчках, сыстэматычным склікаваньнем—па паведамленьнях да Старастаў — сходаў істнуючых Гурткоў Грамады і закладаньнем новых Гурткоў.

У стварыўшыхся цяпер варунках працы Грамады мы павінны выказаць на мясцох як найбольш гарту ў барацьбе за свае правы і правы свайго народу, як найбольш вытрыманасьці і сьмеласьці.

За добрае дзела—стой сьмела! **С. Р.-М.**

## У Польшчы.

### Адчыненьне сэсіі Сойму.

Сойм мае сабрацца ў гэту суботу, 30-га кастрычніка, а 4 гадз. дня. На павестцы першага дня толькі першае чытаньне бюджэту на 1927 г. Пасьля прачытаньня бюджэтнага закону мае зрабіць да яго тлумачэньні (экспозэ) мін. Чэховіч. Газэты пішуць, што так спадзяванага экспозэ прэм'ера Пілсудскага з высьвятленьнем праграмы яго ўраду — ня будзе. Пытаньне аб даверы ад імя ўраду мае паставіць Сойму ня прэм'ер, але міністар фінансаў Чэховіч.

У той-жа дзень мае сабрацца канвэнт старшын соймавых клюбаў, каб апрацаваць праграму працы Сойму—на ўсю бюджэтную сэсію. Эндэкі і іншыя клюбы маняцца падаць вострую інтэрпэляцыю аб „сьледзтве ў справе нападу на пасла Зьдзеховскага".

### 10 проц. дадатак урадоўцам.

Прадстаўнік ураду заявіў афіцыяльна, што ўрад выплаціць дзяржаўным урадоўцам па 10 проц. дадатку ў лістападзе і сьнежні, ды ўнёс у бюджэт 1927 г. такі-ж дадатак да пэнсіяў урадоўцам. Цікаўна матываваны гэты дадатак: урад (чытай: ваенны міністар) хоча безадкладна павялічыць пэнсіі ўсім падафіцэрам, як гэта зроблена ўжо — афіцэрам; дык, каб цывільныя ўрадоўцы не абураліся, трэба неяк нешта кінуць і ім.

„Robotnik" паведамляе, што Цэнтральная Камісія Злучаных Саюзаў Дзярж. урадоўцаў, разглядзеўшы праект ураду аб 10-процэнтным дадатку, прызнала аднагасна гэты дадатак недастатачным, бо дарагоўля наагул узрасла на 30 проц., а датаго-ж яшчэ ўрад, абрэзаўшы ў пачатку гэтага году пэнсіі ўрадоўцам, адабраў з іх галоднага бюджэту за 9 месяцаў усяго аж—185 мільёнаў злотых.

Вось, што значыць даравацц абшарнікам маенткавы падатак: замест яго прыходзіцца зьдзерці з галодных урадоўцаў патрэбныя мільёны, якія пакінуты абшарнікам—на гульню ў рэстаранах ды на — манархічнае „прадстаўніцтва" і прэсу.

### Марачэвскі нарэшце „абразіўся".

Пішуць газэты, быццам міністар Марачэвскі (пэпээсавец) ўрэшце „зразумеў і абразіўся", даведаўшыся з газэтаў—аб зьезьдзе ў Нясьвіжу.

### Ці міністар Бартэль атрымлівае 4 пэнсіі?

„Рэчпаспаліта" паведаміла сваіх чытачоў аб тым, быццам былы прэм'ер Бартэль атрымлівае і цяпер аж 4 пэнсіі — на розных сваіх „ўжэндах". Пан „ПАТ" афіцыянальна запярэчыў гэтай вестцы аб мін. Бартлю. Але-ж прэса пісала так сама і аб тым, быццам і марш. Пілсудскі атрымлівае так сама, калі яшчэ ня больш пэнсіяў,—бо ён і прэм'ер, і маршалак Польшчы, і былы Прэзыдэнт, і ваенны міністар, і Генаральны Інспэктар арміі. Але штосьці дагэтуль ніякіх зяпярэчаньняў гэтага няма.

### „Залатая шабля" ген. Мальчэвскаму.

Цэлым радам „проціпілсудскіх" ваенных арганізацыяў у Пазнані на вялікай урачыстасьці пададзена толькі-што выпушчанаму з віленскага вастрогу ген. Мальчэвскаму (б. ваеннаму міністру ўраду Вітаса) „залатая шабля"—у знак пашаны да яго заслугаў.

Трэба адзначыць у кожным разе — грамадзкую адвагу ўсіх, хто прымаў учасьце ў гэтай урачыстасьці.

# Заграніцай.

## Новыя „вугальныя стасункі“ між Нямеччынай і Францыяй.

У выніку паразуменьня францускіх і нямецкіх прамыслоўцаў—вугальных і жалезных—скасаваны між абодвума краямі ўсе прымусовыя дастаўкі нямецкага вугальля для Францыі, прадбачаныя Вэрсальскім Трактатам. Цяпер увоз нямецкага вугальля ў Францыю будзе адбывацца выключна на падставе вольных дагавораў і заказаў. Гэткім чынам амаль ня ўся эканамічная частка Вэрсальскага Трактату, вязаўшага Нямеччыну, скасавана... Спрытная палітыка Нямеччыны крок за крокам фактычна і практычна зьніштажае гэты Вэрсальскі Трактат, навет не касуючы яго юрыдычна...

## Трэньні ў францускa-нямецкім паразуменьні.

Выкананьне на дзеле паразуменьня між Францыяй і Нямеччынай, аб якім вялі такія салодкія размовы ў рэстаране пекнага мястэчка Туары Брыян з Штрэзэманам, аказалася ня так лёгкім. Як мы ўжо пісалі, Брыян спаткаў у сябе ўпорнае спраціўленьне з боку Пуанкарэ, якога настрашылі гэнаралы ды нацыяналісты, дык усе яго абяцанкі зьняць акупацыю Надрэніі аказаліся перадчаснымі... З свайго боку і Штрэзэман, які абяцаў заплаціць за ўсе гэтыя ваенна-палітычныя палёгкі ды ўступкі—чыстым золатам нямецкіх марак (—на ратунак францускага франка), так сама спаткаў рашучы апор з боку фінансавага дыктатара Нямеччыны — дырэктара яе дзяржаўнага Банку Шахта. Шахт рашуча адмовіўся выдаць Францыі з залатога запасу Нямецкага Банку на 2 мільярды марак золата. Ен растлумачыў, што гэта, зразумела, было б вельмі выгадна для Францыі, але гэта пазбавіла-б Нямеччыну значнай часткі яе залатога запасу, які дае ей—сілу першага банкіра ў Эўропе і далейшы неабмяжаваны крэдыт у Амэрыцы. Адступіць усё гэта Францыі — гэта-ж значыць выпусьціць апошняе аружжа з рук.—Дык хай Штрэзэман яшчэ патаргуецца з Брыянам: можа той што спусьціць яшчэ.

## Віды на спыненьне забастоўкі ў Англіі.

Павадыр бастуючых англійскіх вуглякопаў Кук заявіў, што ён гатовы згадзіцца на вырашэньне спору аб заработнай плаце — шляхам палюбоўнага суда. Заявіў ён і аб гатоўнасьці саюзу вуглякопаў распачаць новыя перагаворы з уласьнікамі шахтаў і ўрадам—на падставе 8-гадз. дня працы.

## Прадаўжэньне вынятковага палажэньня ў Англіі.

У сувязі з прадаўжэньнем забастоўкі вуглякопаў—ўрад прадоўжыў на месяц вынятковы стан у Англіі.

Цікаўна, што мясцовыя ўлады пачалі забараняць работніцкія мітынгі на мясцох — ў раёнах забастоўкі. На інтэрпэляцыю работніцкіх павадыроў міністар унутр. спраў заявіў, што... „мяйсцовай уладзе відней, што трэба рабіць, каб ухіліць небясьпеку выступленьняў работніцкіх павадыроў перад разагітаванымі забастоўкай масамі“.

Зусім, як на нашых „крэсах“.

## Чэшскія эндэкі ў трывозе.

Уваход нямецкіх міністраў у склад буржуазнай урадавай коаліцыі ў Чэха-Славакіі выклікаў страшэнную трывогу сярод чэшскай нацыянальнай дэмакратыі. Яе лідэры заяўляюць аб пагражаючай дзяржаве небясьпецы ад паразуменьня з немцамі, якія занялі... іх мейсца ў габінэце!... З другога боку чэшскія сацыял-дэмакраты падрыхтоўваюць агульны „процібуржуазны блёк“ усіх сацыялістычных групаў (не выключаючы, здаецца, і камуністаў ды радыкальна-сялянскіх паслоў), які гэткім чынам робяць вельмі сільную апазыцыю ўрадавай большасьці...

## Сэнсацыйная вестка аб—румынска-вэнгерскай уніі.

Італьянскія газэты падалі сэнсацыйныя весткі аб перагаворах, якія быццам ідуць між урадамі Румыніі і Вэнгрыі — ў справе аб'яднаньня абодвух краёў.

Пад каронай аднаго супольнага караля. Гэтым каралём быў-бы сучасны румынскі кароль Фэрдынанд Гогэнцолерн (крэўняк Вільгэльма II).

Румынскія газэты не запярэчылі гэтай вестцы, але дадалі, што пачын і прапазыцыя дзяржаўнай уніі ідзе з Вэнгрыі. Што да Румыніі, дык яе кіраўнікі пакуль што прызналі варункі, прапанаваныя Вэнгрыяй, нявыгаднымі. Аднак-жа вэнгерскія манархісты—„ня трацяць надзеі на пасьпех“.

## Замах на пэрскага шаха.

У часе падарожы па краю пэрскага шаха адзін з яго панцырных аўтамабіляў узарваўся ад паложанай у яго бомбы.

Гэта ўжо ня першы замах на гэтага „самадзельнага шаха“, які яшчэ толькі нядаўна быў расейскім казацкім афіцэрам, пасьля пэрскім „пэпэсам“, а ў канцы, паразумеўшыся з пэрскімі зубрамі-абшарнікамі ды мулламі, сеў моцна на трон шахаў, распачаўшы новую дынастыю.

# МАНІФЭСТ КАПІТАЛУ.

177 найбуйнейшых капіталістаў 16 дзяржаваў Эўропы і Амэрыкі, — начале з 5 вялікімі дзяржавамі: Амэрыкай, Англіяй, Нямеччынай, Францыяй і Італіяй — выдалі маніфэст, зьмест якога настолькі цікаўны і важны, што даем яго амаль не цалком.

## Зьмест маніфэсту.

„Як людзі дзелавыя“, — фінансісты, прамыслоўцы і гандляры гэтых краёў сцьвярджаюць вялікую небясьпеку для гаспадарчага адраджэньня сьвету—у тых **мытных кардонах ды ўсяляніх перашкодах, якіх панаставілялі на натуральных шляхох міжнародавага гандлю розныя новастворaныя—у выніку вайны—дзяржавы і дзяржаўкі.**

„Развал вялікіх палітычных адзінак у Эўропе зрабіў цяжкі ўдар сусьветнай таргоўлі. На шырокіх прасторах, на якіх да вайны насяленьне іх мела магчымасьць свабодна абменівацца сваімі таварамі, панатворана шмат новых граніцаў, якіх заздросна бароняць новатворы штучнымі мытнымі бар'ерамі. Даўнейшыя рынкі зьніклі. Расавай (нацыянальнай) ненавісьці дазволена цяпер разьдзяляць гаспадарчыя арганізмы, інтарэсы якіх былі заўсёды зьвязаны не падзельна. У выніку гэтага стварылася такое палажэньне, як быццам хтось адумысна парваў між гаспадарствамі ўсе лучыўшыя іх сувязі, каб спыніць між імі ўсякія тарговыя адносіны. Ці-ж ня ясна, што пры гэткіх варунках дабрабыт кожнай дзяржавы прыйдзе ў заняпад“?

Далей маніфэст кажа, што ўсе гэныя недарэчныя і шкодныя „мытныя кардоны і забароны“ тасуюцца, як магутны спосаб „замацаваць новастворaныя ў Эўропе граніцы“... А вось „цяжкі дасьлед даказаў“, што гэтыя спосабы ўтрымаць новыя граніцы толькі далей руйнуюць ня толькі гэтыя новатворы, але і ўсю сусьветную гаспадарку,—увесь міжнародавы тарговы абмен, — руйнуюць навет сільныя гаспадарчыя арганізмы вялікіх прамысловых дзяржаў. „Адна дзяржава ня мае таннага збожжа ці жыўнасьці, другая — танных фабрычных тавараў. Прамысловыя краі церпяць ад недахвату вугальля ды сыр'я“...

„За гэтымі штучнымі бар'ерамі пачала таксама штучна стварацца мяйсцовая прамысловасьць — без усялякай запраўднай гаспадарчай падставы ў краі; прамысловасьць, якая на паўстаўшую канкурэнцыю (заграніцы) адказывае толькі яшчэ больш высокімі бар'ерамі (мытнымі платамі“), ці далейшым падыманьнем цэн прамысловых тавараў у краі—на шкоду насяленьня, ды на карысьць толькі—прамыслоўцам.

У выніку ўсіх гэтых недарэчных спосабаў „умацоўваньня граніцаў“, якія папросту, відаць, ня могуць утрымацца,—„таргоўля між дзяржавамі прыпынена, цэны на ўсё страшэнна ўзрасьлі, бо самі ўрады выклікаюць дарагоўлю ў дзяржаве; вытворчасьць абмяжована, абмяжованы крэдыт, абязцэнены валюты“...

Маніфэст сцьвярджае далей, што новы палітычны стан новае Эўропы яўна давёў усе эўрапэйскія дзяржавы да **палажэньня трывалай гаспадарчай вайны**, якая руйнуе іх ня менш, як вайна з аружжам у руках... Бо, прыкладам, нейкая недарэчная гаспадарча і палітычна дзяржава, змарнаваўшы дзеля „ўтрыманьня сваіх граніц“ сваю валюту, пробуе стабілізаваць яе (ўтрымаць на сталым роўні), абмяжоўваючы ўвоз да сябе заграмічных тавараў, навет патрэбных яе насяленьню, ды гэтым руйнуючы адпаведную прамысловасьць сваіх суседзяў... За гэта суседзі таксама адказываюць забаронай увозу да сябе вырабаў з гэнае дзяржавы, руйнуючы далей яе валюту, ды крыўдзячы пры гэтым і сваё насяленьне... І так ідзе ўсё далей і далей, руйнуючы ўсё больш — без канца—падставы ня толькі дабрабыту і разьвіцьця насяленьня ўсіх краёў Эўропы, але і падставу трывалага міру між імі...

„Эўропа бяднее і галее, і мы ня можам спакойна глядзець на гэта“,—кажуць кіраўнікі гаспадарчага жыцьця 16 дзяржаваў Эўропы—з Амэрыкай на чале...

Гэтыя благія палітычныя варункі новай Эўропы стварылі ў ёй „злую волю“, якую трэба цяпер неяк ператварыць у „добрую волю“... Якія спосабы гэтай замены злой волі на добрую радзяць капіталісты?

Вось вывад іх маніфэсту, так ярка абрысаваўшага прычыны пануючай „злой волі дзяржаваў“—у пастаці новых штучна праведзеных граніц у Эўропе, разьбіўшых „непадзельнасьць гаспадарчых арганізмаў“. Капіталісты заклікаюць урады новастворaных дзяржаў да „спыненьня гаспадарчых перашкод ды бар'ераў“, зварачаючыся да „добрай волі“ тых, у каго безнадзейнае імкненьне захаваць сучасныя гаспадарча шкодныя і недарэчныя палітычныя граніцы якраз і няўхільна вытварыла „злую волю“...

Маніфэст падпісаны банкірамі ды прамыслоўцамі Амэрыкі, Англіі, Нямеччыны, Чэха-Славакіі, Бэльгіі, Швэцыі, Нарвэгіі, Галяндыі, Даніі, Швайцарыі, Вэнгрыі, Аўстрыі, Румыніі, Польшчы—бяз усялякіх агаворак ды засьцярогаў. Засьцярогі зрабілі, падпісаўшы таксама маніфэст, толькі прамыслоўцы Францыі і Італіі. Францускія фінансісты спужаліся тэй „палітыкі“, якая ёсьць у маніфэсьце... Італьянскія прамыслоўцы патрэбавалі дадаць і свабоду эміграцыі. Але найбольш цікаўна тое, што пад гэтым Маніфэстам стаіць — бяз усякіх засьцярогаў — подп'с прамыслоўцаў польскіх...

## Палітычны бок Маніфэсту

Француская прэса выкрыла, што Маніфэст сусьветных фінансістаў—„выраб—нямецкай творчасьці, мэты якой выражаюцца ў двух дамаганьнях Бэрліну: перагляд усходніх граніцаў і—пляну Доўса“. Але для ўсякага ясна, што справа—значна глыбейшая. Маніфэст дае запраўды-ж забойчую крытыку тэй „Вэрсальскай Эўропы“, якую тварылі камандаваўшыя на Парыжскай мірнай Канфэрэнцыі Францыя з Англіяй.

Як ведама, Францыя і Англія—**дзеля мілітарнага ўплыву на мяйсцох**—нарабілі паміж рознымі дзяржавамі шмат так-званых „калідораў“, якія маюць мэтай якрак **дзяліць дзяржавы расова і палітычна**. А вось цяпер гэты палітычны падзел і забівае гаспадарча ўсе дзяржавы Эўропы, не выключаючы „вялікіх“. На прыкладзе Польшчы найляпей відаць мэты вялікіх імпэрыялістычных дзяржаваў Эўропы. Польшча зроблена „вялікай“ зусім не ў яе ўласных мэтах, не ў яе гаспадарчым ці палітычным інтарэсе, але выключна — у мілітарным інтарэсе Францыі (—каб трымаць пад пагрозай Нямеччыну) і Англіі (—каб трымаць кулак над СССР)... Гэткія-ж мэты кіравалі Англіяй — у падтрыманьні і скіраваньні проці СССР балтыцкіх дзяржаў. Усюды здаровыя нацыянальна-адраджэнскія рухі народаў, якія зусім не пярэчаць гаспадарчаму аб'яднаньню краёў, ператвораны гэтымі імпэрыялістычнымі дзяржавамі ў „расовыя ненавісьці“, спаралiжаваўшыя дабрасуседзкае жыцьцё і супрацоўніцтва народаў. Усё гэта нам ведама добра на ўласнай скуры. Але, калі мы на мясцох крычалі аб выніках такое палітыкі, душачыся ў розных „калідорах“ і „сьляпых кішках“, дык нашыя „паны ў Эўропе“ затыкалі сабе проста вушы. Толькі цяпер яны зразумелі створаную імі „злую волю“, бо вынікі іх „працы“ пачалі біць па кішанёх іх-жа самых!...

## Гаспадарчы зьмест маніфэсту.

Але гэты цікаўны маніфэст, сцьвярджаючы поўнае банкруцтва ўсей паваеннай палітыкі эўрапэйскай буржуазіі, прызнаўшай катастрафічны стан усяго створанага пераможцамі гмаху „Вэрсальскай Эўропы“, мае яшчэ ня менш важны і цікаўны гаспадарчы зьмест. Сцьвярдзіўшы банкруцтва буржуазнага ладу, маніфэст буйнай буржуазіі ўсяго сьвету падае спосабы і срэдзтвы, якімі буржуазія хоча вылячыць усе хворыя дзяржавы ад сказанай хваробы і заняпаду.

Пануючая буржуазія хоча вылячыць сьвет гаспадарча і палітычна — **свабодай гандлю**. Яна трэбуе для сябе — вольнай рукі на ўсім прасторы Эўропы. Паглядзім, каму на карысьць пойдзе гэтая поўная „свабода шляхоў“ для сусьветнай таргоўлі... Ўжо з найбольшага ліку англійскіх, нямецкіх і амэрыканскіх подпісаў пад Маніфэстам ясна, чый тут быў пачын ды на чыю карысьць апрацаваны і выданы гэты Маніфэст. Маніфэст абураецца ня толькі на штучныя граніцы, на мытныя бар'еры, але і на „штучна паўстаўшую прамысловасьць“ гаспадарча слабых дзяржаваў. Ясна, што скасаваньне гэтых бар'ераў выгадна перадусім — гаспадарча сільны краём з высока-разьвітай прамысловасьцю, утраціўшым для сваіх вырабаў даваенныя рынкі збыту... Свабодная канкурэнцыя аканчальна заб'е прамысловасьць слабых гаспадарча краёў, падчыніўшы іх цалком сьпярша гаспадарча, а пасьля, ведама-ж, і палітычна—краям сільным прамыслова. Гэткіх сільных фінансава-гаспадарча краёў у Эўропе і „над Эўропай“—толькі тры: Амэрыка, Англія і Нямеччына. І вось—у гаспадарчую кабалу гэтай новай „Тройкі“—замест слаўнай вэрсальскай „Пяцёркі“—і хоча аддаць Маніфэст сусьветнай буржуазіі—рэшту сьвету.

# З жыцьця „Грамады“.

## Рэпрэсіі.

× 18. X. 1926 г., паліцыянт Касьцянеўскага паст. (Вялейскага пав.) № 1168 зьбіў Янку Кратовіча (вёска Рабунь), ды парваў на ім адзежу за адмову падпісаць якуюсь паперу. На пастарунку, куды Кратовіч зьявіўся па загаду таго ж пастарунковага, дамагаліся ад яго ведамасьці аб ліку сяброў Грамады і іх прозьвішч. Кратовіча камэндант пратрымаў цэлы дзень у арыштце, ды заявіў, што паліцыя біць людзеі мае права. Кратовіч—сябра Грамады; аб біцьці мае сьведак.

× 10. X. 1926 г. Куранецкі (Вялейск. пав., камэндант паліцыі № 100 разагнаў арганізацыйны сход Беларускай Сял.-Работ. Грамады ў в. Новыя-Зімадры, пад закідам, што сход нелегальны (?!). На пратэст і выясьненьне сэкрэтара Чубара Васіля камэндант адказаў: „замаўчаць!... Я яшчэ маю на вас кайданоў... Што я адзін скажу—не паможа і сто чалавек; калі захачу то зараз-жа будзеце ў Вялейцы!“. Сьпісаваючы пратакол, перапісаў усіх прысутных сяброў і сымпатыкаў.

× Той-жа камэндант № 100 на сходзе Куранецкага Гуртка зрываў адзнакі партыйнай міліцыі (чырвоныя павязкі з літэрамі Б. С.-Р. Гр.), пад закідам, што ня было надпісі папольску.

× 12. X. 1926 г. паліцыянт № 1556 з Крывіцкага паст., спаткаўшы ў вёсцы Восава старшыню Княгінінскага Гуртка (Вялейск. пав.), М. Клімовіча, у грубай, няпрыстойнай форме зажадаў ад апошняга аддачы яму „чэсьці“.

× 14. X. 1926. Староста Наваградзкага пав. пісьмом № 30743 запатрабаваў ад Нараповіча Рыгора, жыхара в. Новая-Вёска (Нягневіцкай гм.), імяннога сьпіску сяброў гуртка Бел. Сял.-Работ. Грам., забараняючы аднача сна ўсялякія сходы да таго часу, пакуль гэты сьпісак ня будзе дастаўлены.

14. X. 1926. Той-жа Наваградзкі стараста паступіў таксама і з Наваградзкім гуртком, пісьмом № 30637 забараняючы сход 17. X.

14. X. 1926. Наваградзкі стараста пісьмом № 30671 такі самы адказ даў Гуртку ў Ахонаве, забараняючы сход 17. X.

× 21. IX. 1926. у в. Клетная, Парэцкай гм. Пінск. пав., адбыўся арганізацыйны сход грамадзян вёскі Клетная, паведамленьне аб якім выслана было старасьце 13. IX. і на якім былі прысутны 2 паліцыянты № 1308 і № 1221. Вось, 7. IX. прыехаў якісьці новы паліцыянт і пад закідам, што сход адбываўся нелегальна, і грозьбай пачаў вымагаць ад сяброў в. Клетная Паўлы і Язэпа Малевічаў і Ціхана Вакульчыка даць пераказ усяго, што рабілася і гаварылася на сходзе, ды па два экзэмпляры партыйных друкаў, а наастатку напісаў на іх пратакол.

× Процiў старшыні Гірдзеўскага Гуртка (Вялейскі пав. Краснасельск. гм.) жых. вёскі Сьвечкі Юстына Сьвечкі паліцыя падняла сыстэматычны паход. Досыць Юстыну Сьвечцы затрымацца на вуліцы з якімсь адным ці двама чалавекамі, як паліцыя зараз-жа піша на яго пратаколы за **нелегальны мітынг, або сход**. У агульным ліку ён мае ўжо 4500 зл. вызначанай старастам кары.

× 15, X. 1926 г. арыштаваны прэзыдыум гуртка Б. С.-Р. Грамады ў в. Шубакі, Кастр. гм. Слонімск. пав.: Сяргей Кніга, Цімох Герасімчык, Хведар Дзянішчык і Мікалай Утлік—пад закідам скліканьня нелегальнага сходу.

× 24. X. 1926. меў адбыцца пав. зьезд у Слоніме, які слонімскі стараста пісьмом № 31986/VI забараніў. Пісьмо ў Цэнт. Сэк. надышло так позна, што ўжо ня было ніякай магчымасьці адклікаць зьезд. Сабралася маса народу, паміж якім паліцыя пачала рабіць беспадстаўныя арышты; арыштаваны між іншым сэкрэтар Казлоўскага раёну Сіняк і сябра Якубчык.

× 5. IX. 1926. на сябру Бел. С.-Раб. Грам. Янку Дразда, жых. в. Пятроўшчына, Маладэч. пав., паліцыя напісала пратакол і заарыштавала яго, пад закідам, што ён устроіў нелегальны сход у в. Пажэрах; сапраўды-ж ён, начуючы ў аднаго жыхара в. Пажэра (Малад. пав.), чытаў там толькі сялянам № 13 „Маланкі“. Маладэчанскі стараста аштрафаваў Дразда на 3000 зл. або 30 дней арышту. Там-жа паліцыя сканфіскавала партыйныя друкі і блянкі.

× 16. IX. 1926. Наваградзкі стараста аштрафаваў сэкрэтара гуртка Б. С.-Р. Грам. ў вёсцы Падгайна на 30 дзён за зроблены без паведамленьня старасты арганізацыйны сход у в. Медзянявічы, Гарад. гм., Баран. пав.

× 26. IX. 1926. ў Малюшыцкім Гуртку Бел. С.-Раб. Грам. адбываўся сход сяброў Грамады, аб чым Наваградзкаму старасьце было выслана паведамленьне яшчэ 20. IX. На сход зьявіліся паліцыянты і заявілі, што тэлефонаграмай № 210 стараста сход забараніў. З прычыны таго, што забароны на пісьме даручана ня было, сход адбыўся. За гэтае сабраньне Уладзіміра Бурду пакаралі 2-мя месяцамі вастрогу. На судзе ўраднік Янушкевіч угаварываў спачатку ўсіх пакінуць партыю Б. С.-Р. Грамады.

## НОВЫЯ АРГАНІЗАЦЫІ.

У ніжэйпаданых мяйсцовасьцях з'арганізаваліся новыя Гурткі і выбраны Камітэты Беларускае Сялянска-Работніцкае Грамады:

### Дзісьненскі павет.

548 у в. **Квачы**, Верхнянскае гм.
549 у в. **Жукі-Ложныя**, Гарманаўскае гм.
550 у в. **Лашкава**, Стэфанпольскае гм.
551 у в. **Буйкі**, Шаркаўскае гм.
552 у в. **Маскалюкі**, „
553 у в. **Пятровічы**, „
554 у в. **Янкі**, Докшыцкае гм.
555 у в. **Таргуны**, „
556 у в. **Іванаўшчына**, „
557 у в. **Слабада**, „
558 у в. **Бабічы**, „
559 у в. **Жураўлёва**, Глыбоцкае гм.
560 у в. **Шуневічы**, „
561 у в. **Ст.-Шарабаі**, „
562 у в. **Зевалічы**, „
563 у в. **Чачэлі**, „
564 у в. **Харашкі**, „
565 у в. **Кавалі**, „
566 у в. **Ліхабалотцы**, „
567 у в. **Лапліна**, „
568 у в. **Сёмкі**, Празароцкае гм.
569 у в. **Адрубак**, Пархвенаўскае гм.
570 у в. **Вострава**, Празароцкае гм.
571 у в. **Матошкі**, Залескае гм.
572 у в. **Мазьніва**, Пліскае гм.

### Косаўскі павет.

573 у в. **Бусяжы**, Косаўскае гм.
574 у в. **Старажоўшчына**, „
575 у в. **Хадоркі**, „
576 у в. **Жамайдзякі**, „
577 у в. **Мілейкі**, „
578 у в. **Куляшы**, „
579 у в. **Юрашкі**, „
580 у в. **Козікі**, Борка-Гічыцкае гм.
581 у в. **Воля**, „
582 у в. **Волька-Аброўская**, Сьвятавольск. гм.
583 у в. **Шчытнае**, Ружанскае гм.
584 у в. **Палонек**, „

**Камітэты Гурткоў працуюць што-дня.**

## Лукішкі.

Беларусы стогнуць, плачуць
Праклінаюць лёс мужыцкі,
I адну пацеху маюць
У бядзе—Лукішкі!
„Нам зямлі“, сяляне просяць:
„У паноў яе дык лішкі.
„Жыць няма на чым“, галосяць.
Што-ж, далі?—Лукішкі!
Там мужык з сям'ёй бядуе:
„Пуста ў клеці, чысты міскі;
Хто дасьць зьесьці, паратуе?“
Што-ж, далі?—Лукішкі!
Ад падаткаў той галосіць:
„Ой, задушаць, конец блізкі!“
Хоць якой палёгкі просіць...
Што-ж, далі?—Лукішкі!
„Мне работы, дайце хлеба —
У дзяцей аж сохнуць кішкі!“
Шле работнік скаргу ў неба...
Што-ж, далі?—Лукішкі!
Дзетак той маленькіх мае.
Просіць школы роднай, кніжкі...
Дэкляраці пасылае.
Што-ж, далі?—Лукішкі!
Той газэту пашырае,
Той аб праўдзе піша кніжкі—
У роднай мове навучае...
I за гэта ім— Лукішкі!

**Улад-Ініцкі.**

## Заклік.

6 жніўня г. г. датла згарэла в. Мутвіца, Пінскага пав. Жыхары засталіся бяз хлеба, страхі над галавою і вопраткі,—папрытульваліся яны па суседніх вёсках. Сярод пацярпеўшых ёсьць і 11 сяброў—„Грамады“. Дык вось-жа тамашні гурток „Грамады“ зварочваецца да ўсіх беларусаў, а асабліва да сяброў „Грамады“, з гарачаю просьбай ня даць загінуць гэтым няшчасным пагарэльцам, — злажыцца, хто колькі можа, бо „з Грамады па нітцы,—пагарэльцам сарочка“.



шэньня яго маемасьці, ад якой залежыць далейшы працяг вытворчага працэсу гаспадаркі.

4) Урэшце селянін з ўмона-чыстага прыбытку аддаў 32,78 житн. адз. на пакрыцьцё неспадзяваных, выпадковых страт. Гэты вынік нельга лічыць нармальным і неабходным. Бязумоўна, такія-сякія страты кожная гаспадарка мае, але наша гаспадарка іх мае занадта шмат. Паколькі найбольшыя страты прыпадаюць на падзеж жывёлы, якая, як мы бачылі, знаходзіцца ў вельмі дрэнных умовах, патолькі трэба як селяніну, так і дзяржаве зьвярнуць на гэта належную ўвагу. Добрая арганізацыя вэтэрынарнай дапамогі—адна з галоўных задач, належнае выкананьне якой, калі ня зусім, то значна зьменшыла-б гэты вынятак з умоўна-чыстага прыбытку.

Такім чынам, мы бачым, што, за выключэньнем адлічэньняў на пакрыцьцё падзежу жывёлы, разьмеркаваньне нашым гаспадаром умоўна-чыстага прыбытку больш-менш зроблена правільна. А калі гэта так, тады беспрыбытковасьць гаспадаркі мы павінны шукаць у хібах арганізацыі вытворчасьці гаспадаркі, вынікам якой зьяўляецца нізкі,—як гуртавы, так і ўмоўна-чысты—прыбытак нашай гаспадаркі. Вось чаму спынімся каротка (за нястачай месца) на некаторых арганізацыйных рысах гаспадаркі.

(Канец будзе).

*У. Павалковіч.*

## Як павялічыць зыск з дробнае сельскае гаспадаркі.

(ПРАЦЯГ).

I запраўды, у першыя часы, калі чалавек пачынаў кідаць старыя, перанятыя ад бацькоў і дзядоў звычаі і перахадзіў да засеву хлябоў, яму гэта была дужа цяжка, бо ў хлебаробаў таго часу ня было ні знаньня, як ляпей абрабляць зямлю, ні тых сельска-гаспадарчых машын, [1]) якія цяпер мае самы дробны гаспадар у нас і без якіх не магчыма вядзеньне гаспадаркі ў сучасны мамэнт.

I пражывалі людзі ў гэны час на сваей прымітыўнай гаспадарцы, толькі дзякуючы таму, што навакол свабоднай зямлі было досьць, а нявоpатая яшчэ яна давала добрыя ўраджаі.

А калі кавалак зямлі, на каторым сеяўся хлеб, пачынаў пусьцець, „гаспадар“ кідаў яго і перахадзіў да новага і г. д.

Але з размнажэньнем насяленьня земляроб мусіў прымаццавацца да таго ці іншага куска, на каторым і павінен быў загаспадарыць.

З таго часу ўстанавіўся інстытут прыватнае ўласнасьці на зямлю, [2]) які дапамог хітрэйшым людзям захапіць вялізарныя абшары.

Пасьля ўстанаўленьня ўласнасьці на зямлю селянін хоць і працаваў на сваім куску, але абрабляў яго доўгія часы таксама, як і раней.

---

[1]) Плугам і бараной служыў у гэны час гатовы крук з сука, які паступ**ова зьмя**няўся ўсё ў лепшае і лепшае арудзьдзе.

[2]) У розных народаў „прымацавалі“ сялян да зямлі ў розныя мамэнты.



## Пераход ад беспарадачных засеваў да трохпольля і патрэбнасьць пераходу да шматпольля з пладазьменным севазваротам.

Як мы бачылі вышэй, пры пастаянным засеве на адным і тымжа мейсцы, ды яшчэ аднаго і таго збожжа, зямля хутка пусьцела і давала ўсё меншыя і меншыя ўраджаі. Каб даць час аддыхнуць частцы свайго поля, а рэштай карыстацца, сталі паступова завадзіць усім нам вядомае трохпольле. Раней яго завялі на бліжэйшых да сялібы кусках, пасьля і на далейшых [1]).

Тутака мы бачым нейкі прагрэс, нейкую сыстэму, бо пры трохпольлі ўсё поле падзелена на тры часткі, якія папарадку астаўляюцца пад жыта, ярыну і пад папар.

Але і гэта сыстэма сельскае гаспадаркі, калі і мела сэнс, дык толькі тады, калі зямлі яшчэ хапала; неразробленых лугоў і пасьвішч для скаціны было ў дастатку. З павялічэньнем насяленьня гэтыя лугі і пасьвішчы сталі разрабляцца і ў гаспадарцы стала не хватаць корму, што павяло за сабой скарочаньне ўтрыманьня скаціны. Ад недастачы гною, зямля і пры трохпольлі хутка стала пусьцець і даваць меншыя ўраджаі. Вось чаму гэту форму гаспадаркі болей культурныя народы Заходняе Эўропы даўно замянілі на новую. Тамака ня ведаюць такой роскашы, каб кідаць $^1/_3$ частку сваей зямелькі „аддыхнуць“. Ад гэтага і жывуць яны шмат заможней нас беларусаў, хоць зямельку па прыроднай якасьці маюць і нялепшую.

I заграніцай 100—150 год назад перажылі гэтакі самы сельскагаспадарчы крызіс, які мы бачым цяпер на Беларусі, калі трохпольле спустошыла зямельку, а замяніць яго яшчэ на шматпольле не пасьпелі. Але ў гэты мамэнт сялянам прышла на помач улада, якая пры помачы аграномаў і разумнейшых гаспадароў-культурнікаў зьніштожыла папар, навучыла сялян ляпей абрабляць зямлю, гнаіць яе ня толькі хлеўным гноем, але і штучным і зялёным пагнаеньнем.

Потым завялі лепшыя гатункі збожжа, палепшылі пароду скаціны, сталі сеяць на полі новыя карысныя расьліны і нарэшце, завялі замест аджыўшага свой век трохпольля—шматпольле з пладазьменным севазваротам, пры якім ральля не спаражніваецца ад пажыўных часьцін, а наадварот. Усім гэтым паднялася вытворчасьць сельскае гаспадаркі настолькі, што нам здаецца байкай.

**Пара і нам беларусам, калі мы жадаем выйсьці на шлях дабрабыту і заможнасьц**, ідобра ўцяміць, што далей трохпольле і папар немагчымы. Час ужо пажагнацца з цемрай, галадоўляй, нэндзай і, прызваўшы на помач сабе знаньне, пайсьці да эканамічнага адраджэньня шляхам нашых культурных суседзяў-немцаў, чэхаў і інш.

Як гэта ў нас зрабіць—пабачым ў наступных гутарках.

Агроном *А. Андрусеўская.*

## Як скарыстаць ураджай саду.

Продукты сельскай гаспадаркі, асабліва сьвежыя плады і ягады, хутка псуюцца ці мяняюць свой смак. З пладоў на даўжэйшы час захоўваюцца толькі некаторыя сарты яблык, напр. антонаўка-камяніч-

---

[1]) I цяпер ёсьць на Беларусі кускі зямлі, на якіх яшчэ не завялі трохпольнага севазвароту і карыстаюцца імі без парадку.

Грошы просяць прысылаць па адрэсу: Пінскі пав., гм. і пошта Морочно, Гурток Беларускай Сялянска-Работніцкай Грамады ў в. Мутвіцы Цярэнцыю Гаўрымоку.

Адклікніцеся, Грамадзяне! Трэба паказаць што, калі мы будзем стаяць адзін за ўсіх й ўсе за аднаго, то не загінем!

# ХРОНІКА.

**Далейшая зьвяга проці Грамады.** „Kurjer Wileński" з 27. X. у № 249 надрукаваў пад загалоўкам „Савецкія самалёты і акцыя „Гурткоў" ніжэй паданае:

„Ад пэўнага часу савецкія самалёты пералятаюць граніцу Польшчы. Даляцеўшы да пэўных мяйсцовасьцяў, заварачваюцца і лятуць назад. Адбываецца гэта пераважна ў тых мяйсцовасьцях, дзе акцыя Гурткоў у апошнім часе шырака павяла сваю працу. Вышэй паданае сцьвярджае, што паміж Саветамі і Гурткамі істнуе нейкі кантакт".

Што-ж гэта, урэшце: вар'яцтва нападае на людзей, зьмяшчаючых у сваей газэце такія весткі, ці хочуць яны даказаць гэтым праўдзівасьць прыказкі, што „ад страху вочы на лоб лезуць"?

Ну, і дадумаліся-ж паны—„курвіленцы"! Далей ужо ісьці некуды!

Тая-ж газэта ў № 250 надрукавала карэспандэнцыю з Паставаў, дзе нейкі перапалоханы газэтнымі страхамі абшарнік піша, быццам агітатары „Грамады"—„заманіваюць" сялян у гурткі, сулячы ім па 10 дзезяцін зямлі, калі туды запішуцца.—Ну, паночкі, сяляне ўжо не такія дурныя, як вам здаецца, і ведаюць, што ў гурткі запісваюцца людзі не атрымліваць ад арганізацыі зямлю ці грошы, а супольнымі сіламі змагацца за гэту зямлю, нясучы ў ахвяру і свае сілы, і сваю волю, і пасільную грашавую складку. А вось вы дык прывыклі, відаць, таргаваць сумленьнем, дык ня можаце ніяк зразумець нас...

З свайго боку і „Słowo" вядзе далей сваю нягодную ілжывую кампанію проці „Грамады". Перадрукаваўшы нашу вестку з № 28 аб забойствах сяброў гурткоў у Пінску і Пружаншчыне, газэта бясчэльна дадае ад сябе, быццам у Пінску забойства зроблена... па загаду павятовага камітэту „Грамады". Абшарніцкія пісакі ведаюць, што мы—дзеля цэнзурных прычын — ня можам напісаць, дзе належала-б шукаць вінавайцаў, маральную адказнасьць з якімі павінна дзяліць польская буржуазная прэса, стала падбураючая да гвалтаў проці дзеячоў „Грамады".

Тое-ж „Słowo" стараецца зьвязаць справу арыштаваных у Беласточчыне 45 камуністаў, якіх абвінавачываюць у шпіёнстве, з дзеяльнасьцю гурткоў. Пэўне-ж не адна рэдакцыя „Słowa" аб гэтым будзе старацца...

**Шыла з мяшка!** Што паход адміністрацыі проці „Грамады" і яе прэсы мае зусім іншыя прычыны, чым абвяшчаныя брахлівай буржуазнай прэсай, гэта сьцьвярджае факт, што і арганізацыя з чыста буржуазнай ідэалёгіяй, варожай „Грамадзе",—іменна—„Сялянскі Саюз", — дачакалася першае за ўвесь год судовае справы. Рэдактар сельсаюзьніцкае газэты „Сялянскае Нівы" пацягнены да адказнасьці за зьмяшчэньне у № 35 газэты артыкулаў: „Палітыка польскага ўраду" і „Наша праграма".

Улада быццам знайшла ў гэтых артыкулах праступкі проці 129, 154 і 263 арт. К. К.

Ясна-ж, што ўжо сельсаюзьнікаў нельга абвінаваціць у „бальшавізьме" і г. п. Наадварот: газэта стаіць на выразна процібальшавіцкім становішчы. Дык і прычына рэпрэсіі—ясна-ж, другая: гэта—нацыянальны дух газэты.

Такім парадкам рэпрэсіі проці „Грамады" патроху пашыраюцца на ўвесь беларускі рух.

**У Беларускім Выдавецкім Т-ве.** У нававыбраным урадзе Т-ва праца падзелена між сябрамі гэтак: старшыня ўраду — А. Трэпка, скарбнік — Р. Астроўскі, сэкрэтар — І. Дварчанін.

Таварыства выдае сёлета на 1927 год два календары: адрыўны і кніжкай. Друк першага ўжо распачаты і будзе закончаны к канцу лістапада.

Здадзена ў друк такжа беларуская літэратурная хрэстаматыя (з новае літэратуры).

**Літоўскія клерыкалы—за прыкладам беларусаў.** Як падае польская прэса, літоўскія клерыкалы, незадаволеныя тым, што асьветнае таварыства „Рытас" ня хоча туманіць галоў дзецям клерыкальнымі выдумкамі, выйшлі з гэтага таварыства і зьвярнуліся да польскае ўлады з просьбай дазволіць утварэньне новага—ужо чыста клерыкальнага „Рытаса".

**Скарга пракурору.** Соймавы Клюб Беларускае Сял.-Раб. Грамады падаў скаргу пракурору Навагрудзкага Акружнога Суда ў справе катаваньня ў слонімскай экспозытуры паліцыі заарыштаванага селяніна в. Савічы, Шылавіцкае гм., Слонімскага пав., Кандрата Панасені. У жалабе паслы падробна апісываюць мукі, якія перацярпеў Панасеня. Вінавацяць Панасеню ў палітычных праступках.

**Хлеба нехватае.** Саюзы млынароў усяе Польшчы зьвярнуліся тэлеграфна да ўсіх заінтэрэсаваных міністэрстваў з дамаганьнем абмяжаваньня вывазу збожжа заграніцу — дзеля таго, што на ўнутраных рынках няма падвозу.

Вось і прычына дарагоўлі хлеба, да чаго ўрад сам дапусьціў, дазволіўшы абшарнікам за добрую цану неабмяжована вывазіць хлеб заграніцу. Пратэсты арганізацыяў працоўных нічога не памаглі. Цяпер паднялі голас млынары, якім няма чаго малоць. Мо іх інтарэсы парушаць сэрцы паноў міністраў, якіх не маглі парушыць інтарэсы працоўных?!

**Помач безработным.** Урад усё стараецца аграмічыць і без таго жабрацкую дапамогу безработным. Цяпер дадзены загад аб спыненьні дапамогі тым безработным, якія не ўзялі прапанаванае ім дзяржаўнай управай пасрэдніцтва працы — работы. Вось-жа тут адчыняецца шырокая магчымасьць спыняць дапамогу, сулячы неадпаведную працу. Работнікі павінны добра сачыць за тым, каб на гэтым груньце ня было надужыцьцяў.

**Афіцыяльны курс грошы на 29-га кастрычніка** Даляр—8 зл. 97 гр. Залаты рубель — 4 зл. 61 гр.

29. X. на чорнай біржы ў Вільні за даляр плацілі 8,98. Зал. руб. 4,85. Чырвонец 47.

# З жыцьця Горадні.

## „Дэбюты" Шурпы.

Як ужо пісалася ў № 25 „Народнае Справы" пра дэфэнзыўнага дзеяча Янку Шурпу, які так „шчыра" працаваў ад усяго свайго пястоўска-артыстычнага сэрца на Скідэльскай сцэне, дык пасылаю дадаткова вось што. Апрача „адвакацтва", ён яшчэ займаўся і „інжынерствам" ды „пасольствам, бо выробляў пашпарты ў ССРР, таму, хто-бы хацеў ехаць. Адным словам, артыст, які за ўсе свае выступленьні ашукаў людзей у Скідэльскім раёне — на 15 тысячаў злотых. Ашукаў навет і аднаго судовага сьледчага. Закончыўшы свае выступленьні, хацеў паехаць даваць такія-ж дэбюты за граніцу — у Літву (на яго там ужо даўно чакаюць!); але вока польскага пагранічніка ўбачыла, як ён пасоўваўся з чамаданчыкам у руцэ, дык яго заарыштавалі і прыпёрлі ў Горадзенскі вастрог, дзе ён і знаходзіцца цяпер „w gronie swoich przyjaciół" — старых дэфэнзыўных работнічкаў.

Няхай гэты факт будзе беларусам навукай, як яны павінны сьцерагчыся пястоўскіх дый розных паўлюкевічаўскіх агентаў.

## Самагубства ці забойства?

15-га кастрычніка с. г. па Дамініканскай вул. ў 6 гадз. увечары быў арыштаваны ў п'яны відзе Янка Карнаус і адпраўлены да першага камісарыяту дзяржаўнае паліцыі. На другі дзень жонка, хочучы давецацца аб ім, прышла да камісарыяту. Пасьля розных адгаворак, што яго быццам тут няма, дзяжурны паліцыянт заявіў, што перад гадзінай Карнаус Янка павесіўся, і труп ужо адвезьлі да мясцовага шпіталю. Пайшоўшы да шпіталю, жонка знайшла ў трупярні яго труп, які ляжаў на стале. Але сьлядоў ад павешаньня ня было ніякіх. Затое знайшла сіняк на левым віску, ды на целе ад стамавое косьці да ніжніх робраў ле-

— 86 —

ка. Ягады-ж або вішні не далежваюць і да зімы. Між тым, плады і гародніна маюць вялікае значэньне для пажытку чалавека. Пры ўжываньні адных толькі мясных харчоў, ня гледзячы на іх добры харчовы склад, цела чалавека будзе будавацца пры лішку некаторых матэрый і пры недастачы другіх. Гэта прывядзе да перараджэньня крываносных сасудаў, да зьмен у поласьцях суставаў і іншых нежаданых вынікаў. Плады і ягады, ня толькі даюць здавальненьне чалавеку сваім смакам, але робяць харчы больш поўнымі і здаровымі.

Трэба асабліва ўменьне, каб зьберагчы плады і ягады на доўгі час. Пастараемся даць даступныя кожнаму селяніну спосабы перапрацоўкі іх у продукты, якія маглі-б захоўвацца доўгі час па магчымасьці з тым-жа смакам і пажыўнасьцю.

Самы пашыраны спосаб захоўваньня пладоў і ягад гэта — гатаваньне варэньня, пры якім плады консэрвуюцца цукрам. Цукар павінен быць па магчымасьці густым (70%).

Зьбіраць плады для варэньня трэба сьпелыя (але не перасьпеўшыя) і толькі ў ясную і сухую пагоду. Плады павінны быць здаровыя, не папсутыя птушкамі і кузуркамі. З яблык для варэньня лепш браць цынамонавае паласастае, бо гэты сорт не разварваецца і вельмі ўраджайны на Беларусі.

Парэзаныя для гатаваньня плады ці цэлыя ягады апускаюцца ў сыроп, які робіцца з распушчанага ў вадзе цукру ў 48% гушчыні. Гэты сыроп добра кіпяцяць і здымаюць з яго пенку. Каб варэньне пасьля не зацукравалася, прыбаўляюць да яго трохі патакі. Калі ўжо плады ці ягады будуць празрыстыя, то варэньне гатова. Пры варцы малапахучых пладоў прыбаўляюць ванілі, памяранцавай ці цытрынавай скарынкі і інш. Каб слабыя ягады, напр. маліна, не разварваліся, перад гатаваньнем іх трэба паліць добрым сьпірытусам ці ромам, абсыпаць цукрам і даць пастаяць 2—3 гадзіны. Каб захаваць колер ягад і пладоў, трэба ў часе гатаваньня прыбавіць трохі цытрынавага соку ці цытрынавага квасу.

Сухое варэньне робяць так: змочаныя ягады сьпірытусам, ромам ці каньяком, пасыпаюць цукрам і, калі ягады ўцягнуць у сябе цукар, іх кіпяцяць, а потым зноў пасыпаюць цукрам.

Больш пашыраным і карысным спосабам скарыстаньня пладоў зьяўляецца сушэньне.

З яблык для сушэньня можна раіць баравінку, горацкую харламаўку, штрэйфлінг, антонаўку; з ягад толькі пазёмкі і маліну.

Спосабаў сушэньня пладоў і ягад некалькі, напр., сушэньне на сонцы, ветры, у печы, на пліце, у розных сушылках.

Перад сушэньнем сартаваныя плады трэба прамыць у чыстай вадзе, яблыкі і ігрушы ачысьціць ад скуркі—гэта робіцца дзеля таго, каб яны хутчэй высыхалі. Ачышчаныя плады трэба зараз жа класьці ў ваду, крыху заквашаную цытрынавай ці мураўінай кіслатой (1 лыжка на вядро вады). Яблыкі сушаць цененькімі кружкамі з выразанай сэрцавінай 3—4 гадзіны. Таксама можна іх сушыць і цэлымі. Сушаць яблыкі пры 80° C., а пасьля зьяўленьня на іх паверхні скарынкі дасушваюць пры 65—70° C. Сушаных яблык выходзіць 10% ад сырога матар'ялу.

Ігрушы сушаць разрэзанымі на часткі, пры чым перад сушэньнем іх трэба добра прапарыць, каб потым яны хутчэй высахлі.

Вішні перш сушаць на сонцы ці ў печы, а потым дасушваюць у

— 83 —

маньня прыбытку ад жывёлагадоўлі трэба страціць больш сродкаў вытворчасьці.

Варта тут-жа адзначыць, што ўмоўна-чысты прыбытак у нашай гаспадарцы складае каля 50 проц. ад гуртавога прыбытку, у той час як у швайцарскіх і інтэнсыўна-травапольных гаспадарках, якія на дзесяціну атрымоўваюць больш, чым у тры разы гуртавога прыбытку супроць нашых гаспадарак, гэты процант менш — 34 проц. Адсюль ужо відаць, што нізкі гуртавы прыбытак нашай гаспадаркі ў значнай меры залежыць ад недахопу сродкаў вытворчасьці.

Але пойдзем далей і паглядзім, як разьмяркоўваецца ўмоўна-чысты прыбытак. Большая частка яго (402,67 жытн. адз.) ідзе на спажыцьцё сям'і, іначай кажучы, на заробкавую ёй плату, разумеючы пад апошняй колькасьць сродкаў, патрэбных для падтрыманьня сілы працоўных і гадоўлі новай працоўнай сілы.

Рэшта трацiцца: на падатак (умоўна рэнту) — 41,29 жытн. адз., пакрыцьцё неспадзяваных трат гаспадаркі (галоўным чынам, падзёж жывёлы) — 32,78 жытн. адз.; павінна адкладвацца на амортызацыю грунтовага капіталу (будынкі, жывёла, гаспадарчыя прылады) — 35,70 жытн. адз. Фактычна на амортызацыю застаецца толькі—29.39 жынт. адз.

Але гэта яшчэ ня ўсё. Нармальна працуючы, гаспадарка павінна атрымоўваць належны процант на капітал, якога наша гаспадарка мае на 490,03 жытн. адзінкі. Калі лічыць, што гэты капітал павінен атрымоўваць 5 проц. прыбытку (самы нізкі), то на яго трэба з умоўна-чыстага прыбытку адлічыць 24,5 жытн. адзінкі. Фактычна наш гаспадар гэтага проценту не атрымоўвае, іначай кажучы, актыўны капітал, закладзены ў яго гаспадарцы, працуе бяз прыбытку.

Такім чынам, наш гаспадар не атрымоўвае поўнасьцю амортызацыйнага капіталу (не хапае 6,31 жытн. адзінкі) і зусім не атрымоўвае проценту на закладзены ў гаспадарцы актыўны капітал (24,5 жытн. адз.), што разам складае дэфіцыт гаспадаркі ў 30,81 жытн. адзінкі. Калі-б такую гаспадарку вёў капіталіст, ён, магчыма-б, паставіў пытаньне аб яе зьліквідаваньні. Наш селянін гэтак пытаньне бязумоўна ня ставіў і не паставіць, а будзе яе вясьці і надалей. Вось чаму мы павінны прасачыць, чым тлумачыцца беспрыбытковасьць яго гаспадаркі, а разам з гэтым вырашыць, у якім кірунку трэба палепшыць селяніну гаспадарку так, каб яна давала зыск.

Першым паўстае пытаньне—можа тыя ўтрыманьні і выдікі, якія, зрабіў селянін з свайго ўмоўна-чыстага прыбытку, зьяўляюцца занадта высокімі. Разглядзім іх папарадку.

1) Селянін атрымаў у лік заробкавай платы сабе і сваёй сям'і 402,67 жытн. адз.; за год ён фактычна на гаспадарку, як прадпрыемства, страціў 658 працоўных дзён дарослага мужчыны. Значыць, за дзень працы дарослага мужчыны ён браў усяго 0,61 жытн. адзінкі — плата, як бачым, зусім нізкая; селянін у заробак сабе не перабраў.

2) Селянін заплаціў падатку—41,29 жытн. адз. Ці ня многа гэта? Пры тым стане гаспадаркі, у якім яна цяпер знаходзіцца—бязумоўна многа; і падатак гэты зьяўляецца ня толькі арэнднай платай (рэнтай), якую селянін павінен плаціць дзяржаве, а і падаткам на сялянскі капітал (маемасьць).

3) Селянін па звычайным процанце атрымаў 35,70 жытн. адз. на амортызацыю свайго грунтоўнага капіталу. Утрыманьне гэтага бясспрэчна і неабходна, калі мы разам з гаспадаром ня хочам зьмян-

вага боку было чорна і пад леваю пахвінаю віднелася чорнае пятно. Характэрна, што нязроблены быў пратакол агляду таго мейсца, дзе ён павесіўся і на чым, бо з арыштаванага ня толькі зьнімаюць пояс, шлейкі, як садзяць у камэру, але навет галстух і той адбіраюць. Дзеля гэтага ўсё гэта наводзіць на думку аб іншай прычыне сьмерці Карнауса ў дзяржаўнай паліцыі. Чакаем загаду пракурора. **Молат.**

# Карэспандэнцыі.

### Памсьціўся за жонку.

(З Дзісеншчыны).

У жыхара вёскі Завулак, Празар. гміны, Віктара Леановіча (сябры нашае Грамады) былі нейкія парахункі з чалавекам на „ганаровай пасадзе" Гонтыкам. А сьцеражы, Божа, мець з гэтымі людзьмі якія-небудзь рахункі, — бяды не абярэшся!

Дык і тутака выйшла таксама, бо ледзь золак, 7 га жніўня с. г. ў хату Л. явіліся два афіцэры 7-га батальёну пагранічнікаў — з паліцыяй ды вывядоўцамі—і зрабілі вобыск. Чаго шукалі, няведама; але шукалі гэтак, што паадрывалі са сьцен паперу і павырывалі з вазонаў кветкі. Пасьля вобыску заарыштавалі В. Леановіча, яго бацьку, сястру і яшчэ чатырох мужчын з вёскі. Усіх пагналі на стражніцу ў ф. Ямполе.

Тамака Леановічу прад'явілі абвінавачаньне ў шпіёнстве на карысьць СССР, напісалі пратакол і змушалі Л., каб ён яго падпісаў. Ня чуючы за сабой віны, Л. падпісацца адмовіўся; тагды яму зьвязалі рукі і пачалі біць па твару. Той-жа лёс спаткаў і другога селяніна—Грыгора Скрабатуна. Пры гэтых „баданьнях" былі — два афіцэры, два вывядоўцы і нейкі афіцэр паліцыі.

Зразумеўшы, што ўсё гэтае—справы помсты, Леановіч ня вытрымаў і расказаў „гуманным панам", што ён жаднае віны за сабой не адчувае, а напэўна паў ахвярай помсты Гонтыка, бо любіўся з жонкай апошняга, ды якая мелася кінуць свайго мужа і жыць з ім. І, як кажуць, у доказ сваіх слоў, падаў пачку пісем жонкі?..

Усіх арыштаваных былі адправілі ў Глыбокае, адкуль чатырох звольнілі, а трох—і ў тым ліку і Л.—адправілі на Лукішкі ў Вільню.

Як яно ні было, ці тутака іграла роль помста за жонку, ці за што іншае, — але адно відавочна: што ніколі ня трэба нам, сялянам, мець якія справы з людзьмі „ганаровых пасад", бо потым гэтыя справы вылазяць бокам!.. Нам, сярмяжным людзём, трэба і трымацца сваіх сярмяжных братоў, а ня лезьці ў дружбу з „ганаровымі" панамі. **Сарона белабока.**

## Нам пішуць з вёскі што:

× Зьмітрук Сяргэйчык з в. Сямёнаўка, Крынскае гм., Горадзенскага пав., павёў каня на начлег. На начлезе кань зыйшоў на панскую атаву. Тут наляцелі ўпраўляючы, стораж, каваль і хурманы з двара Сямёнаўка. Хурман і стораж за каня і—у двор, а ўпраўляючы і каваль—да Зьмітрука і зьбілі ружжом да-паўсьмерці—так, што акрываўлены Зьмітрук доўга ня мог падняцца з зямлі. Пасьля, прыйшоўшы да сябе, падняўся і пайшоў да Крынак на пастарунак, каб напісаць пратакол, але пан ужо папярэдзіў паліцыю, і там наадрэз адмовіліся напісаць пратакол, хоць бачылі раны пабітага,—ды яшчэ судом пагразілі. Урадовы доктар таксама адмовіўся даць пасьведчаньне аб пабіцьці (відаць, і туды пан даскочыў!). Тады Сяргейчык узяў пасьведчаньне ў прыватнага доктара, каб падаць гэтых бандытаў на суд. — Спалохаўся ўпраўляючы і хоча гадзіцца з Сяргейчыкам.

**Ад Рэдакцыі.** Гэтую справу мы перадалі ў Соймавы Клюб Бел. Сял.-Раб. Грамады.

× 28 жніўня г. г. Юлія Царык з залоўкамі—сялянкі з в. Міцкевічы, Беніцкае гм., Маладэчанскага пав., жалі гавёс. Аж пад'яжджае падвода з двама лясьнікам з двара Залесьсе і камандантам паліцыі Ваганом, і камандант пытаецца ў Ю. Царык: „хто вёз гэтуды дзерава"? Жанчыны адказалі, што нічога ня бачылі, бо й ня бачылі. Тады зьлез камандант, узяў на руку ружжо і, падыйшоўшы да кабеты, злаяўшы памацерынску, так крыкнуў: „Мув мі, большэвічка, кто вюз джэво"? Кабета ад перапуду нічога не магла адказаць. Забраў камандант гэтую жанчыну і пагнаў да солтыса і гнаў, ружжо трымаючы на пагатове, — як-бы праступніка гнаў! Кабета ўся дрыжала ад страху і пасьля мела два сэрцовыя прыпадкі. У солтыса толькі спыталіся прозьвішча гэтай жанчыны і тое, што яна казала, запісалі і пусьцілі.—Муж заявіў аб гэтым пракурору, прыехаў на рассьледаваньне заступ. павят. каманд. пал., але тых сьведкаў, што падаў у просьбе муж, ня пытаў.

**Ад Рэдакцыі.** Гэтую справу мы скіравалі ў Сойм. Клюб Бел. Сял.-Раб. Грамады.

× Жыхар вёскі Княгініна (Вялейск. пав.) Мацей Крэмза зачаў у 1923 годзе строіць дом, які сёлета і скончыў, апрача пячэй. У гэтым доме 9. X. 1926 г. мела быць беларуская вечарына. Даведаўшыся аб гэтым, Крывіцкая паліцыя 28. IX. забараніла гаспадару ў гэты дом перахадзіць, ды ставіць там печы. Сьцены гэтага дому былі зроблены і накрыты ў 1923 г., калі ніякіх дазволаў на будоўлю ў Крывіцкай гміне не вымагалася.

× У в. Грэбені, Дамброўскай гм., Сакольскага пав., 11/IX г. г. прыехалі 3 і 4 швадрон 2-га палка польскіх уланаў; свае коні паставілі ў гаспадарскіх хлявох, а сялянская жывіна стаяла на дварэ. Загадалі сялянам даць уланскім коням сена; сяляне далі. А ўначы ўланы самы пабралі ў сялян: у каго гарох, у каго гавёс, канюшыну, сена і г. д. Сяляне—да солтыса на жалабу, а солтыс—да начальніка. — Начальнік вылаяў солтыса памацярынску і хацеў прагнаць, крыкнуўшы: „Я Вам покажэ"! Але солтыс — ня трус і запярэчыў начальніку, што нічога ён „не пакажэ", а што ўланы ня маюць права браць чужое. Тады толькі начальнік зьмякчэў. — Прышла другая ноч, дык уланы „направіліся": навет замкі паламалі! — Усё бралі, што пад рукі папала. А як ад'яжджалі, то пры „разрахунку", заплацілі сялянам па 10 грошай ад каня.

Уланы паехалі, а замест іх прыехаў сэквэстратар па падаткі. Грошай няма, вёска ад вайны яшчэ не адбудавалася,—палова сядзіць у зямлянках. А сэквэстратар пагразіў, што, калі да кастрычніка не аддадуць, то ўдвая заплацяць. Збожжа ўланы парасьцягалі, а жывіну—ведама, на падаткі сэквэстратар забраў-бы 1/X. Бяда, рады няма! Падалі просьбу ў Саколку. Дык у Саколцы пакуль „штэмплёвых" не ўзялі,—нічога не сказалі, а як узялі па 2 зл. з гаспадара, то адказалі, што падатак „odterminowany" да 1 кастрычніка і „zwłoki" заплацяць 10 проц., — а сяляне прасілі аб звальнені ад падатку! Вось і памаглі!—Памаглі... толькі сабе, а з селяніна яшчэ спагналі па 2 злотых!

× 19/IX г. г. гурток „Грамады" ў в. Алексічы, Дэрэчынскай гм., Слонімскага пав., рабіў сход сяброў, за пяць дзён паведаміўшы старосту. —Перад сходам прыйшоў стар. пастэр. № 261 Т. Левко і агітаваў, каб ня йшлі на сход, пагражаючы караю; але сябры, як адзін, пайшлі. Тады зьявіўся камандант дэрэчынскага пастар. малодшы „пшодовнік" Домбровскі № 73 і запытаўся аб дазвол на сход. Яму адказалі, што паводле закону дазволу ня трэба, а толькі паведаміць трэба, аб чым яны і паказалі камэнд. квітанцыю. Камандант стаяў на дазволе і патрэбаваў сьпісак сяброў; сэкрэтар Біч ня даў сьпіску; тады камандант перапісаў прысутных і, напісаўшы пратакол і пагразіўшы карай, не дазволіў рабіць сходу. Але сяляне і кары не баяцца, а яшчэ шчыльней гуртуюцца ў „Грамаду", бо, калі буржуазія робіць паход проці арганізованасьці сялян, дык сяляне разумеюць, што трэба дружней і мацней арганізавацца, каб даць адпор гэтаму паходу.

× Гмінны радны Рыгор Хаміцэвіч з в. Гліная, Сьв. Вольскае гм., Косаўскага пав., лае „Грамаду" і Гліненскі гурток, абзываючы грамадзістаў ашуканцамі ды камуністамі. Але гэты вырадак, цана якому—ломаны грош, ніякага посьпеху ня мае сярод разумных сялян.



яны на тую здрадніцкую работу трацілі яго апошнія крохі—соймікавыя падаткі і падмогі Ураду, ен добра прызадумаецца, ці мае і так далей спаглядаць на злыдняў. Дзьве перад ім дарогі—ўступіць членам земляробскіх арганізацыяў, якія істнуюць і ўзяць уладу ў свае рукі, ці ня даць на істнуючыя арганізацыі ні граша—байкатаваць іх і арганізаваць сваі с.-гаспадарскія гурткі абапертыя на с.-г. каапэрацыі. Усім спалоханым панам мусіма скасаць: не страшны нам Вашы злучэньні ў вадно, Вас капля ў моры беларускага народу. Ня спыніце Вы нашай арганізацыйнай працы над самапомачай земляробу, а запамятуйце толькі тое, што здраднікам ды прышлецам, працуючым на шкоду нашага народу, тут ня мейсца.

*Я. Кісьлякоў.*

## Тып беларускай сялянскай гаспадаркі.

*(Эканамічны нарыс на падставе рахункова - агранамічнага досьледу)*

III.

Гадавы гуртавы прыбытак нашай гаспадаркай — 1,046,26 жытн. адз., у склад якога ўваходзяць прыбыткі ад:

| | Жытніх адзінак. | % ад усяго прыбытку. |
|---|---|---|
| 1. Зямляробства . . . . | 435,85 | 41,6 |
| 2. Жывёлагадоўлі . . . | 521,80 | 49,8 |
| 3. Заробкі і хатн. рамест. | 88,61 | 8,6 |

Як бачым, палова гуртавога прыбытку прыпадае на жывёлагадоўлю; зямляробства займае другое месца. Зусім іншы малюнак атрымаем, калі вылічым умоўна-чысты прыбытак, іначай кажучы, калі мы з гуртавога прыбытку адкінем каштоўнасьць вытворчасьці (насеньне, гной, каштоўнасьць конскай працы; рэмонт прылад), — тады будзем мець:

| | Жытніх адзінак. | % ад усяго ўмоўна-чыстага прыбытку. |
|---|---|---|
| Увесь умоўна-чысты прыб. | 516,13 | 100,0 |
| Зямляробства . . . . . . | 283,32 | 54,9 |
| Жывёлагадоўля . . . . . | 162,52 | 31,5 |
| Заробкі і хатнія рамествы | 70,29 | 13,6 |

Зямляробства ў складзе ўмоўна-чыстых прыбыткаў займае першае месца і дае больш палавіны гэтага прыбытку. Значыць, для атры-



сушылцы, павышаючы цяплыню ў працягу 20—24 гадзін. Сухога прадукту бяз костачак выходзіць 18%.

Маліну сушаць ня зусім сьпелую пры цяплыні 60—65° С. у працягу 4—5 гадзін. Сушанай выходзіць 25—26%.

Вельмі добрым спосабам захаваньня пладоў і ягад зьяўляецца мачэньне. З пладоў часьцей мочаць яблыкі і галоўным чынам антонаўку. Яблыкі, зьнятыя з дрэва рукамі, укладаюць у кадку, перакладаючы вішнёвым ці парэчачным лісьцем, заліваюць астуджанай вадой, прыгатаванай з дабаўкай цукру і патакі. Кадку зачыняюць драўняным кружкож, на які кладуць некалькі добра прапараных каменьняў і трымаюць у хаце 2—3 дні. Пасьля заквашваньня, што пазнаецца, калі пачынаюць падымацца на паверхню пузыркі і па смаку малочнай кіслаты, кадку выносяць у халоднае месца. Тут ужо трэба глядзець, каб на паверхні была вада.

Каб умовы працы бактэрый малачэрна—кіслага бражэньня былі найлепшыя, пасуду трэба вымыць і выпарыць, а таксама прыбавіць хлебнага квасу ці кіслага малака.

Яшчэ з яблык робяць пюрэ. Яблыкі і ягады кладуць у кацёл, умазаны ў печ, прыбаўляюць крыху вады і кіпяцяць, пакуль не размякнуць плады. Потым масу гэту праціраюць праз рэшата або прыладжаную дзеля гэтага машыну. Перацёртую масу гатуюць да гушчыні сьмятаны ў місках. Гарачае пюрэ накладаюць у шкляную пасуду ці бочкі, абвязваюць пузыром і захоўваюць у халодным месцы.

Апрача таго, можна з пладоў рабіць пасьцілу, часьцей з яблык ці мешаніны яблык з ігрушамі, сьлівамі, вішнямі ці ягадамі, прычым яблычнай масы бярэцца $^3/_4$ і навет $^4/_5$ усей колькасьці.

Печаныя ці прапараныя над катлом з гарачай вадой плады і ягады пераціраюць праз сіта ці спэцыяльныя машыны, каб аддзяліць мякаць ад костачак, скуркі і іншых цьвёрдых частак. Гэту масу зьбіваюць у пену і кладуць цукар-пясок 300 гр. ($^3/_4$ фун.) на кожны фунт узятае масы і б'юць яшчэ хвілін 10. Сушаць масу пры цяплыні 50° у працягу 5-6 гадзін разложанай на рэшата, слоем у 2 см. ($^1/_2$ вярш.). Рэшата засьцілаюць чыстай паперай, намазанай маслам. Калі гэту масу можна ўжо будзе рэзаць нажом, то яна гатова. Нарэзаная яна зноў ставіцца ў сушылку на 2-3 гадзіны. Выняўшы з сушылкі, масу перакладаюць на другія сіты, скурай уніз. Далей засушваюць так, каб кавалкі яе з усіх бакоў засохлі і каб у сярэдзіне іх не заставалася рэдкай масы.

*З. В.*

## Зімоўка пчолаў.

Ад добрай зімоўкі пчолаў залежыць сіла раёў і карыснасьць пчалярскай гаспадаркі. Каб зразумець, як забясьпечыць пчолам добрую зімоўку, насамперад трэба пазнаёміцца з жыцьцём пчол у доўгую зіму.

Як толькі настануць халодныя дні і раньнія прымаразкі, пчолы зьбіраюцца клубком з нізу гнёздавых рамак і сядзяць амаль непарушна, ядучы пакрысе мёд і ў меру зьяданьня яго пасоўваючыся ўгару. У сярэдзіне клубка захоўваецца патрэбная цяплата і тыя пчолы, якія ў той ці іншы момант знаходзяцца на паверхні клубка, праціскаюцца ў яго сярэдзіну, каб абагрэцца, а іх мейсца займаюць іншыя пчолы.

# З Радавае Беларусі.

## Скліканьне акадэмічнай канфэрэнцыі.

Згодна з пастановай Прэзыдыуму Інстытуту Беларускае Культуры, Акадэмічная Канфэрэнцыя ў справе беларускага правапісу і азбукі склікана на 14-га лістапада. На канфэрэнцыю запрашаюцца выдатнейшыя навуковыя сілы, якія знаходзяцца як у межах ССРР, так і па-за межамі яго. З Заходняй Беларусі запрашаюцца: прадстаўнікі Віленскага Навуковага Т-ва; з Латвіі—К. Езавітаў, В. Пігулеўскі і прадстаўнік беларускага Навуковага Т-ва ў Рызе; з Літвы—В. Ластоўскі, А. Галавінскі і іншыя. Паслана запрашэньне беларускаму нацыянальнаму камітэту ў Чыкаго — (Амэрыка).

Апрача вядомых філёлёгаў БСРР, на канфэрэнцыі маюць быць—ад Расейскай Акадэміі Навук акадэмік Карскі, з Масквы праф. Растаргуеў і іншыя вядомыя філёлёгі.

Усім запрошаным на канфэрэнцыю асобам разасланы адпаведны навуковы матар'ял.

Канфэрэнцыя мае працягнуцца тры дні.

Віленскае Навуковае Т-ва ў адказ на запросіны паведаміла Інбелкульт, што прыезд віленскіх культурных дзеячоў на 14-га лістапада—немагчымы дзеля таго, што блізу ўсе яны зьвязаны сваей прафэсіянальнай працай. Т-ва запрапанавала адлажыць канфэрэнцыю на Каляды. Да таго-ж прыезд у Менск будзе залежаць цалком ад дазволу польскае ўлады.

## Пачатак тэатральнага сэзону ў БДТ.

3-га кастрычніка адчыніўся сэзон Белар. Дзярж. Тэатру пастаноўкай п'есы Міровіча—„Перамога". П'еса адбівае падзеі на Беларусі ў 1920 г.

## Падручнікі па камэрцыйных навуках на беларускай мове.

У сувязі з пераходам школ і курсаў на беларускую мову, загадчык бухгальтэрскіх курсаў В. Т. Войтэнка рыхтуе да выданьня падручнікі на беларускай мове па рахункаводзтву (падручнік для слухачоў бухгальтэрскіх курсаў і 8—9 кл. сямёхгодак), камэрцыйных аблічэньнях, камэрцыйнай карэспандэнцыі і дзелаводзтву.

## Новыя выданьні „Маладняка".

Ц. Б. „Маладняка" рыхтуе да друку новыя выданьні. У хуткім часе маюць выйсьці апавяданьні С. Хурсіка „Ціна" і вершы маладога паэта А. Звонака „Веянь".

## Пашырэньне пасеўнае плошчы ў Віцебшчыне.

За апошні год пасеўная плошча ў Віцебшчыне павялічылася да 319.148 дзес., што ў параўнаньні з даваенным часам дае ўзрост на 40.000 дзес.

Характэрна, што азімы клін увесь час зьніжаецца. Так, у 1924 г. засеў яго раўняўся 38,63 проц., у 1925 г.—36,26 проц., і ў 1926 г. — 36,06 проц. усей пасеўнай плошчы.

Гэта сьведчыць, што сялянства Віцебшчыны хаця марудна, але паступова пераходзіць на шматпольле.

У акрузе моцна прывіўся пасеў пшаніцы, якая ў даваенны час амаль не засявалася. Пачынаючы ад 1920 г., пад пшаніцу штогодна засяваецца ў сярэднім 6.000 дзес.

Наглядаецца таксама выдатны рост плошчы кармавым траў. Так, пасеў выкі павялічыўся за 2 гады больш чым удвая (з 5.019 дзес. да 10.687 дзесяцін), сёлета пасеў канюшыны ўзрос з 3,22 проц. за 3,56 проц. усей пасеўнай плошчы акругі.

## Бяспрытульных—на гаспадарку.

Зараз-жа па БСРР арганізавана 6 сельска-гаспадарчых калёній для бяспрытульных. У калёніях навучаецца звыш 300 дзяцей. Хутка адчыняецца новая калёнія ў Полацкай акрузе, разьлічаная на 100 чалавек. Па сканчэньні курсу заняткаў у калёніі бяспрытульныя будуць накіроўвацца ў савецкія гаспадаркі.

## Жыды вяртаюцца з Палестыны.

За апошнія месяцы ў БСРР з Палестыны вярнуліся 50 эмігрантаў, якія выехалі туды на жыцьцё. Эмігранты расказваюць аб жудасных умовах жыцьця ў Палестыне.

## Праца сярод літоўскага жыхарства.

За летні час літоўскае бюро пры Нар. Кам. Асьветы масавай працай абслужыла 23 літоўскія вёскі ў розных акругох БСРР.

Названае бюро сабрала падрабязныя матар'ялы аб эканамічным і культурным стане літоўскіх калёній і быце сялян-літоўцаў.

## Арганізацыя працоўнай арцелі цыганоў.

У хуткім часе мае быць арганізавана ў Менску арцель цыганоў-катляроў. У арцель уваходзіць звыш дзесятку катляроў, якія працуюць у ваколіцах Менску.

## Рост радыё-прыхільніцтва.

За летні час радыё-рух у БСРР значна ўзмацнеў. Па гарадох і мястэчках Беларусі зараз зарэгістравана каля 600 гучнаварыцеляў.

Больш за ўсе радыё-прыхільнікаў у Менску — звыш 2.000 чалавек. Хутка менскія радыё-прыхільнікі адчыняюць сваю ўласную шырока-вяшчальную станцыю.

**Не грамадзіст той, хто не запісаўся ў сябры Т-ва Беларускае Школы!**

# Юрыдычныя парады.

**Багдану Янку.** На прыезд трэба мець дазвол польскага ўраду. **Грэцнаму Янку.** Трэба было-б ведаць зьмест гэнай умовы. **Калінцу Лаўрыну.** Зьвярніцеся ў Варшаву: Głównv Urząd Likwidacyjny, але ці будзе што з гэтага, сказаць трудна.—**Падпішчыку № 2989.** Можна свайго дахадзіць судом, але на судзе трэба даказаць, сколькі Вы мелі права атрымліваць у год; калі свае Вы кожны год атрымлівалі, дык цяпер нічога больш трэбаваць ня можаце.—**Кушнеру Максіму.** Калі Інспэктар Працы нічога ня зробіць, дык трэба зьвярнуцца ў суд.—**Маніду Васілю.** Цяпер страхоўка прымусовая. —**Дакудаўскаму гуртку Б. С.-Р. Грамады.** Ніякі каморнік самавольна ня мае права ставіць капцы. Гузоўскі мае права падаваць на памешчыкаў у суд і прасіць аб устанаўленьні нарушанага ўладаньня (o przywrocenie zakłóconego posiadania).—**Тодару Бяздомнаму.** Усё павінны дзяліць на роўныя часьці.—**Мікалайчык Кацярыне.** Зрабіце так, каб на Вас падалі, тады нічога ня выйграюць.—**Напарку Я.** З гаспадаркі жонкі можаце мець права на $^{1}/_{3}$ часьць, а тое, што самі купілі, належыць толькі да Вас.—**Хварэўшаму.** Зьвярніцеся да Павятовага Сойміку з просьбай звольніць ад платы. — **Пракапчуку А.** Калі на гародзе ёсьць сэрвітут, дык перш яго трэба зьліквідаваць.—**Хведчыну Андрэю.** Трэба падаць прашэньне да староства.—**Богану Міхасю.** Маці з прымаком мае права на палавіну, а на другую—Вы з братам. — **Тамашэвічу Міхасю.** Жонка мае права на $^{1}/_{7}$ часьць, рэшта пераходзіць да найбліжэйшае радні. — **Карповічу Міхасю.** Можна прасіць староства, каб папраўлі —**Сінкевічу А.** На краму трэба выбраць прамысловае пасьведчаньне, а на права гандлю тытуном зьвярнуцца ў павятовы ўрад акцызу і манаполяў. — **Туронку Ігнату.** Калі зямля была старога, дык яго жонка яе адсудзіць ня можа і пераказаць каму другому такжа ня можа.—**Кудзі Сяргею.** Легальна можна прыехаць, толькі маючы загранічны пашпарт і дазвол на ўезд ад радавага консульства.

**Не грамадзіст той, хто не падасьць дэклярацыі на беларускую школу!**

Адказны-Рэдактар: **К. Вайтовіч.**

Выдавец пасол на Сойм **П. Мятла.**



Калі-б пчолы ў марозную зіму моцна чым-небудзь патрывожыць, то яны-б разьляцеліся, страцілі належнае цяпло і зараз-жа здубелі.

З гэтага бачым, што пчолы зімою павінны мець вялікі супакой. Ня можна стукаць у вульлі, ня можна пускаць у садок, дзе вульлі, стаяць ні коней, ні жывіны, ні хатніх птушак. Трэба таксама пільна сьцерагчы, каб не залезьлі ў вульлі мышы, бо яны робяць вялікія шкоды, ядучы мёд і вашчыну і разганяючы пчол. Найважнейшая рэч, каб вульлі былі цэлыя, ня мелі шчылін, дзюрак і завялікіх вылятаў. Выляты трэба на зіму паменшыць, а калі-б у старых вульлях былі якія дзюркі, то пазатыкаць старанна пакульлем і зьверху замазаць глінай. Добра пад рамкі і на рамкі зьверху палажыць па колькі каліваў перцавай мяты; мышы не пераносяць паху мяты і лезьці ня будуць. Зімою, не працуючы, пчолы зьядаюць мёду вельмі мала, што, зразумела, для пчаляра і добра.

У некаторых толькі выпадках пры неадпаведных умовінах зімоўкі пчолы прымушаны есьці больш, што даводзіць пчол да хваробы, бо яны зімою ў вульлі не спаражняюцца, а затрымліваюць адходы ў здольнай расцягівацца кішцы аж да вясны. Але-ж, калі ядуць зашмат, то адходы ў кішцы не памяшчаюцца, пчолы дастаюць „ляксы", ад якой гінуць. Есьці мёду лішне многа пчолы могуць у гэтакіх выпадках: 1) калі ў вульлі занадта цёпла і душна, а паветра сухое, мёд ня можа прыцягіваць патрэбнай колькасьці вільгаці і пчолы, старающыся заспакоіць смагу, ядуць яго больш, чым трэба. 2) Калі ў вульлі холадна, пчолы пачынаюць больш рухацца і больш есьці, каб падтрымаць у сябе цяпло. 3) Неспакой у вульлі ці каля вульля выклікае тое-ж самае.

Ня менш, чым цяпло і спакой, патрэбна пчолам чыстае паветра, каб яны маглі свабодна дыхаць. Дзеля гэтага трэба глядзець, каб выляты ня былі засыпаны якім сьмяцьцём, або сьнегам, а таксама трэба час ад часу прачышчаць іх ад мёртвых пчолаў.

І так, яшчэ раз паўтараю: дзеля добрай зімоўкі пчолаў трэба каб яны мелі: 1) Належнае цяпло; 2) Чыстае паветра; 3) Бязумоўны спакой і, зразумела, адпаведную колькасьць мёду.



Друкарня **Я. Левіна,** Вільня, Нямецкая 22.



## Дабрадзеі.

Усе гутаркі аб тым, што польскія земляробскія арганізацыі аднаалькова рупяцца аб паляпшэньні долі земляроба, жыхара нашай вёскі—беларуса, ці шляхціца ды асадніка-паляка, што не вядуць ніякай палітыкі—сапраўдная мана. Хай гэтакімі завярэньнямі тумаяць нас яшчэ іхні агітатар-інструктар, хай гэтак піша іхняя земляробская прэса, як „Рольнік" і „Загрода" ды „Тыгоднік Рольнічы"— в чым яны нас не пераканаюць, бо работу мы іх ужо бачым ня першы год, ды ўжо добра пазналіся на гэткіх фарбаваных лісіцах. Не дарма ў такіх арганізацыях, як Кулкі Рольнічыя, што жывуць на нашу крывавіцу—падаткі, што пьюць нашу кроў і пот, расселіся і разьеліся усялякія выхадцы з добра нам знаемых арганізацый ваюючага польскага нацыяналізму, як Страж Крэсовая ды Рады Людовыя. Не дарма кіруючыя імі адзінкі рэкрутуюцца з платных наймітаў—агентаў пана Вінцэнтага Вітаса. Усе гэта жменя ваўкоў у авечых скурах, што нясе дзеля таго земляроба з пяцьма процантамі земляробскай веды, дзевяноста пяць процантаў атруты яду польскага нацыяналізму. Як ведама маральная цана ўсей гэтай кампаніі—грош. Прывыкшы толькі набіваць кішэні добрымі пэнсыямі з сойміковых падаткаў, ды субсыдыяй Ураду, у каторым засядалі іх соймавыя пратэктары, яны да часу рабілі з сябе нібы стойкіх абаронцаў клясы дробных і сярэдніх земляробаў.

За апошнія часы пасьля майскага перавароту ў працягу пары месяцаў, чакаючы, што іх калегі ізноў вернуцца на свае становішчы, яны крыху прыціхлі, цяпер-жа, калі пабачылі, што справа зацягіваецца ды ў Урад увайшлі абшарнікі іх заклятыя нібы ворагі, як Мэйштовіч, Незабытоўскі ды Станевіч, каб дабіцца ласкі панскай, тую старую сваю палітыку пакінулі і давай цалаваць ручкі сваіх новых Уладароў. І вось цікава, забыўшы ўсю асьцярожнасьць на людным сабраньні прадстаўнікоў земляробскіх арганізацыяў Віленшчыны і аграномаў 28/IX—г. г. адзін з іх прэзэс г. зв. Кулэк Рольнічых п. Таўрогінскі пачаў расьпінацца аб патрэбе злучэньня сваей арганізацыі з арганізацыяй земляробаў абшарнікаў і стварэньня адзінай сільнай **польскай арганізацыі земляробаў.** Матываваў ен гэта тым, што нібы беларусы пачалі арганізаваць свае земляробскія гурткі і ў тым бачыў ен небясьпеку сваей земляробскай арганізацыі, ды польскай земляробскай культуры. Гэта зрабіла ўражаньне.

Сьледам за ім яшчэ больш спалохаў сабраньне, калега прэзэса, маладзенькі кіраўнік Кулэк Моладзі нейкій п. Камінскій—раздуваючы сказаннае яго прадмоўцам: гэта так у кінула ў пот старых, ды маладых манархістаў-абшарнікаў, Стражэцка-Радзюкоўскую „Млодзеж" ды прысутных аграномаў, што тут жа рашылі зьліцца ўсе ў вадно і, высока падняўшы свой ужо добра пацерты штандар, нага ў ногу машыраваць Drang nach Osten на беларускіх хамаў, бараніць доступу да земляробскай веды. Ня ведама ці пашанцуе п. Таўрагінскаму і ці ўдасцца яму аканчальна злучыць свае Кулкі з абшарніцкім Таварыствам, аднак яго прызнаньні адкрылі вочы ўсім і яны падцьвярдзілі нашы прадугады. Цяпер ужо і наш селянін будзе ведаць, якую працу вялі тыя Кулкі і што па іх можна спадзявацца, а дзеля таго, што